# ЛЕТАПІС

## Т-ВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ

### КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТЭРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК



Беларускі хор у в. Стары-Сьвержань, Стаўпецкага павету.
Глядзі: „На слаўным становішчы“, стар. 32.



№ 2. Вільня, Чэрвень—Ліпень 1933. Год I

# Зьмест:



НАШЫМ ЧЫТАЧАМ ПРЫШЛОСЯ ДВА МЕСЯЦЫ ЧАКАЦЬ ДРУГОГА НУМАРУ „ЛЕТАПІСУ“. НАМ ПАТРЭБАВАЛАСЬ ДВА МЕСЯЦЫ, КАБ НАБРАЦЬ НЕАБХОДНУЮ СУМУ, ДЗЕЛЯ ВЫПУСКУ Ў СЬВЕТ ГЭТАГА НУМАРУ.

КАБ НЯ БЫЛО ЗАТРЫМАНЬНЯ Ў ДАЛЕЙШЫМ, МЫ ЗЬВЯРТАЕМСЯ З ГАРАЧАЙ ПРОСЬБАЙ ДА СВАІХ СЯБРАЎ І БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗЯНСТВА ПАДТРЫМАЦЬ „ЛЕТАПІС“ МАСАВЫМ ЗЬБІРАНЬНЕМ АХВЯР І СКЛАДАК НА ПАДПІСКУ. УСЯКІЯ НАРАКАНЬНІ НА КРЫЗЫС ПАВІННЫ АДПАСЬЦІ. СЬВЕДАМЫХ БЕЛАРУСАЎ У ВЁСКАХ І МЯСТЭЧКАХ ДЗЕСЯТКІ ТЫСЯЧ; КАЛІ КАЖДЫ ДАСЬЦЬ ПА ПЯЦЬ ГРОШАЎ, НАВАТ ПА АДНАМУ ГРОШУ Ў МЕСЯЦ, ТО МЫ ПОЎНАСЬЦЯЙ ЗАБЯСПЕЧЫМ РЭГУЛЯРНЫ ВЫХАД У СЬВЕТ КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКАГА МЕСЯЧНІКА. ТАКАЯ АХВЯРА ПА СІЛАМ КОЖНАМУ. ТРЭБА ХАЦЕЦЬ НЕ НА СЛАВАХ ТОЛЬКІ, КАБ ПАШЫРАЛАСЯ РОДНАЕ ДРУКАВАНАЕ СЛОВА. ДАЛУЧЫМ ДА СВАЙГО ХАЦЕНЬНЯ ЭНЭРГІІ І ВОЛІ, І ВЫХАД З ЦЯЖКАГА ПАЛАЖЭНЬНЯ ЗАЎСЁДЫ БУДЗЕ ЗНОЙДЗЕНЫ.

РЭДАКЦЫЯ ПРЫ ГЭТЫМ ЗАЗНАЧАЕ, ШТО ВЫСЫЛКА „ЛЕТАПІСУ“ УСІМ ТЫМ, ХТО НЕ АДГУКНЕЦЦА НА НАШ ЗАКЛІК, **БЕЗУМОЎНА БУДЗЕ СПЫНЕНА.**

З ТАКОЙ-ЖА ПРОСЬБАЙ АБ ПАДТРЫМАНЬНІ МЫ ЗЬВЯРТАЕМСЯ І ДА СВАІХ БРАТОЎ-БЕЛАРУСАЎ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА ЗА МЕЖАМІ НАШАГА КРАЮ, І МАЕМ НАДЗЕЮ, ШТО НАШ ГОЛАС — НАША ПРОСЬБА — ДОЙДЗЕ ДА ІХНЯГА СЭРЦА: ЯНЫ ЗРАЗУМЕЮЦЬ НАША КРЫТЫЧНА-ЦЯЖКАЕ СТАНОВІШЧА І ПРЫДУЦЬ З ТАК ПАТРЭБНАЙ НАМ ДАПАМОГАЙ.

УСІХ СВАІХ ЧЫТАЧОЎ ПРОСІМ ВЫКАЗВАЦЬ СВАЕ ЗАЎВАГІ І ПАЖАДАНЬНІ АДНОСНА ВЫДАНЬНЯ І НАДСЫЛАЦЬ МАТЭР'ЯЛЫ ДА ДРУКУ.

# ЛЕТАПІС
## Т-ва Беларускае Школы

КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТЭРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК

Цана: 3 зл. 60 гр. на год
1 „ 80 „ „ паўгода
асобны нумар 50 гр.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ:
Вільня, Боніфратэрская 2—3

№ 2 | Чэрвень — Ліпень, 1933 г. | Год І

ДРУГОЕ ВЫДАНЬНЕ ПАСЬЛЯ КАНФІСКАТЫ

Ў народ і край свой толькі веру
І веру ў самаго сябе.

Я. КУПАЛА.

Цэлыя сталецьця Беларускі Народ знаходзіўся як у цёмным віры. Гісторыя не радавала нас сьветлымі надзеямі; здавалася канца ня відаць цёмнай ночы, палітычны небасхіл цэлага народу быў зацягнены непраглядными хмарамі. Цемра. Культурны заняпад. Паншчызняная няволя. Насьмешкі чужынцаў. Вось былыя абставіны грамадзкага і палітычнага жыцьця нашага Народу.

Такія цярністыя, цёмныя шляхі народ асьвятляў уласным сьветам — сілаю свайго самабытнага генія. Як на дне акіяну, куды не дасягае сьвятло дзеннае, ёсьць дзіўныя стварэньні, што маюць свой падводны казачны сьвет, якім карыстаюцца пры сваіх вандроўных прыгодах, — так і наш народ, пераходзячы з аднае эпохі ў другую, у цёмныя часы свае гісторыі, карыстаўся чароўным сьветам сваіх жыватворных крыніц. Бяз гэтых крыніц даўно згінуў бы, як народ, быў бы сьцёрты з гістарычнае мапы зусім.

Народ ня знаў палітычнага жыцьця, бо быў паняволяны, але меў вялікія здольнасьці і, ў тагачасных умовах, на дне сваіх тайнікоў духовых, патрапіў адкладаць такія вартасьці, як думы, песьні, казкі, абрады, звычаі, цесна сплеценыя з яго працаю, патрапіў захаваць сваё нацыянальнае аблічча. Вось на гэтых вартасьцях, на гэтай працы пышным цьветам паўстае і разьвіваецца наша сучасная культура.

Народ абудзіўся і да жыцьця палітычнага. Многа спрыяла гэтаму рэвалюцыя 1905 года, якая бурнай хваляй пракацілась і на Беларусі. Крывавая навальніца — сусьветная вайна —

растаптала, спаліла і расьцяла наш край на дзьве часткі. Рэвалюцыя 1917 года разваліла царскую Расею і дала магутны ўздым да палітычнага і культурнага жыцьця паняволеныхъ раней народаў. Зразумела, што ўсё гэта моцна спрычынілася да таго, што і наш народ абудзіўся, выйшаў на гістарычныя шляхі шукаць сабе пачэснага мейсца ў сямы іншых народаў.

Усе прызнакі здаровага культурна-грамадзкага жыцьця, такога ўпартага шуканьня сваіх нацыянальных шляхоў мы наглядаем і тут у Заходняй Беларусі. Народ жывучы, — ён перанёс цэлыя сталецьця няволі, народ жыве і змагаецца за свае правы цяпер, народ будзе жыць, бо ён здольны, працавіты, выносьлівы.

Вось чаму так моцна і заўзята трымаецца народ за свае ім самым створаныя арганізацыі. Якія, напр., перашкоды спатыкала і спатыкае наша Т-ва, аднак нішто ня можа падважыць таго высокага аўтарытэту, якім яно карыстаецца ў народзе. Ня можа, бо гэта арганізацыя ўзапраўды народная, вырасшая на здаровым грунце народнай псыхікі і ахвярнасьці; сюды пакладзена мазольная праца шырокіх народных масаў. Мала таго, тут вялікая ідэя, праз якую сьвеціць нам слаўная будучыня. Ідэя народнага адраджэньня, поступу, разьвіцьця.

Праўда, Т-ва панясло за некалькі гадоў вялізарныя страты. Зачынялісь і зачыняюцца гурткі цэлымі дзесяткамі, прычым марнуецца маемасьць. Тысячы злотых гатоўкаю, дзесяткі тысяч кніг, музычныя інструмэнты, тэатральныя прылады, радыёапараты, нават будынкі, дзе месьцяцца цяпер польскія школы (в. Чамяры) усё гэта губіцца для ўласьніка — нашай арганізацыі.

Здавалася-б, што такія крайнія меры, як масавыя зачыненьні гурткоў, павінны адхіліць народ ад сваёй арганізацыі. Узапраўднасьці-ж гэта зусім ня так. Народ горнецца да Т-ва, бо ня страціў свайго нацыянальнага пачуцьця і сьведамасьці. Народ мае высокую ідэю, ад якой так лёгка не адступіцца. З рэштаю, ўсё гэта вельмі яскрава выявілася пад час суду над Прэзыдыюмам Галоўнае Управы. Пры поўнай адсутнасьці сваёй прэсы, вёска ўсё-ж пільна сачыла за падзеямі, шчыра пераживала іх і давала глыбокае маральнае падтрыманьне сваім кіруючым культурным органам. Вось якога зьместу пісьма прыходзілі да сябраў Галоўнае Управы на лаву падсудных: „Мы вельмі засумавалі, што нашы найлепшыя сілы і кіраўнікі культурна-асьветнай працы засядуць на лаве аскаржоных і няма ведама, што з гэтага можа быць... З свайго боку выносім вам шчырую падзяку за то, што вы не даліся сполёнізаваць беларускую мову і не здрадзілі культуру народных масаў“.

Такія пісьма былі ня толькі ад гурткоў, былі проста ад вёсак з тых паветаў, дзе зачынены ўсе гурткі Т-ва. Ёсьць пісьма з некалькімі сотнямі падпісоў. Наваградчына, Горадзеншчына, Палесьсе, Стаўпеччына, Беласточчына і іншыя паветы далі выраз сваім настроям.

Пасьля суда вёска такжа адгукнулася: „Мяне просяць сябры вёскі, — піша селянін — каб я пішучы гэтае пісьмо перадаў усім вам шчырае прывітаньне і спагад, у перажытай і перажываемай усімі вамі нядолі, і пажаданьне надалей змагацца за асьвету для тых няшчасных сьвіткаў, аб якіх вы ўспаміналі ў сваім апошнім слове“... „Паверце, калі мы гутарылі аб гэтым (слове) вечарам, дзе звычайна зьбіраецца многа сялян, то ўсе проста былі закрануты да сьлёз“.

... „Але жывем і будзем жыць! — пішуць нам з другога канца Бацькаўшчыны. — Заклікаем вас стаяць на стражы, не хіліцца і ня гнуцца, як і дагэтуль“!..

А гэта ўжо сьведчыць, што вынікі працы Т-ва — народная сьведамасьць і адраджэнскія настроі — перамагаюць усе труднасьці, бо гэта сам народ, яго ідэя, яго стыхія.

З усяго сказаннага мы маем права зрабіць вывад, што наша становішча заўсёды было слушным, бо нашы шляхі вядуць у народ, наша орыентацыя — толькі на народ, і ўплывы на нас могуць быць толькі ад шырокіх народных масаў.

Праз сучаснасьць мы падаем руку сваёй будучыні і пакладаем надзеі на свой Край, свой Народ, на саміх сябе.

---

**ВІНЦУК КАНЦАВЫ.**

# Зьвіні каса.

*Зьвіні, каса, зьвіні радная!*
*Зьвіні, мой голас, малады!*
*Мая каса, хоць ты старая, —*
*Выводзіш, мілая, з бяды.*
*Жыцьцё ты знаеш наша добра:*
*Граша ня маем за душой.*
*Мянтой кармлю цябе аж надта,*
*І сам жыўлюсь ано вадой.*
*Зьвіні, зьвіні-ж, мая радная!*
*Сьпявай ты з голасам маім,*
*Пакуль ня зьменіць маладая*
*Сталёвым посьвістам сваім.*
*Няхай зялёная лажыцца,*
*Хай вянуць кветачкі вясны.*
*Расой з табой хачу умыцца*
*Пакуль спаткаем сонца мы.*
*Зьвіні, каса, зьвіні бясконца,*
*І песьня радасна зьвіні!*
*Мы сёньня ўсталі разам з сонцам,*
*І разам з сонцам спаць ляглі.*
*А заўтра можа спадарожкай*
*З табою разам пойдзем ў сьвет*
*Туды адною мы дарожкай,*
*Нядолі дзе няма і бед.*

ЗОСЯ ПАРФАНОВІЧ.

# Шпітальныя нарысы.

## Опэрацыя.

Быў дзіцянём і меў сінія нявінныя вачаняты. Зьдзіўлена глядзеў на салю ды на пстракаты амфітэатр студэнтаў.

Быў з вёскі. Яго мова чыстая, родная. З палёў...

Сілаю прывязалі да стала. Залажылі маску. Па некалькіх хвілінах спаў, стогнучы.

Наўкол яго ўзняўся рух: з лавак саскаківалі студэнты ды зьбягаліся да стала. Стары хірург і асыстэнты мылі рукі. У іх постацях было поўна пасьпешнае важнасьці.

Дзесь сыпаўся пясок, сычалі вадаправоды... Бегалі... Бражчэлі прыладамі... Сьмяяліся, гутарылі...

На назе хворага прыгатавалі ўсё, ды нажом разьцялі скуру. Вострыя вілкі расхілілі рану. Рынуў гной. Выціралі яго, выцінали ножнічкамі гнілыя тканіны. Далей узялі долата, ды сьмешны хірургічны малаток. Раздаўся мэталёвы гук: раз! раз!

Абцугі трошчылі косьць, ламіла яе долата пад ударамі молата. З раны вырывалі скрываўляныя кускі, ды кідалі іх наўкола сябе. Скрываўленая марля ляжала на падлозі. Лілі ёд, сыпалі ёдаформу, гутарылі, жартавалі.

Слухачы выцягвалі галавы, вылазілі на столікі ды адзін па над другім намагаліся нешта ўгледзіці. Салю заліваў пах антысэптыкі *) ды этэру, млявіў і душыў. Скончылі. Аднялі маску.

З адчыненых вуснаў дабываўся клёкат ды хрыпеньне. Вочы напоў адчынены. Тыя сінія, жывыя калісь вочы! Цяпер зьвернены недзе ў сябе, ці ў цемру ночы. На абліччу чырвоныя плямы мукі.

Sopor — sopor... **)

Ледаваты подзьмух сьмерці ішоў з тых няжывых вачэй.

Жыцьцё, жыцьцё!!

Няма.

Бразг нажоў, пах наркозы. Забава ў сьмерць.

А яна стаяла ў галавах стала, расьцілала шэрыя крыльлі і сеяла з іх холад і страх. Дзівілася з сініх вачэй дзесь у сьвет

---

*) Грэч. — процігніеньне. Папярэджаньне заражэньня раны шляхам застасаваньня пры опэрацыях раствораў, якія нішчаць бактэрыі.

**) Лац. — вечны сон, сьмерць.

нязнаны, поўзала з пенаю пакрытых вуснаў, лавіла за горла, ціснулася ў мозак.

І ня стала жыцьця.

Вялікая, страшэнная, крыжовая таемніца Сьмерці!

---

Я выбягла на двор. Сонца сьвяціла ясна і цёпла, сьмяяўся блакіт ды шумелі дрэвы. Красавалі травы ды пяялі птушкі.

Жыцьцё, жыцьцё!

Я выцягнула да яго плечы ў жаданьні вялікім, а ў душы канаў сударажны плач.

Хацела кінуцца на зямлю ды крычаць што сілы:

Жыцьцё, жыцьцё! чаго мучыш чалавека?!

... Чуваць хруст трошчанае косьці...

І пачула, як у душы адазваўся голас:

„Ты-ж выбрала мукі і сьмерць, ты рашылася служыці ім! Ты пакінула радасьці, бязтурботнае жыцьцё. З рэштаю — яшчэ не запозна. Уцякай!“.

„Каля ног тваіх — зелень, — перад табой — сінява прастору!“.

„Хочаш?“.

## Кроў.

Падзея зусім звычайная: таварыш прабіў яго ў сутычцы нажом.

Гэта быў прыземісты, шыракаплечы работнік. Калі яго прывязьлі да шпіталя, левае плячко было сільна спухлае, а з пад лапаткі дзюрчэла-капала брудная кроў. Гарачка унепрытомніла яго. Ён кідаўся, зрываўся і крычаў.

Другога дня, калі скончылі вялікія опэрацыі, прывязьлі гэтага хворага на возіку да опэрацыйнае салі. Лекар, які меўся працінаці флегмону, мыўся доўга і старанна выціраў рукі шчоткаю. За гэты час хворага палажылі на стале, прыгатавалі прылады і пачалі наркозу. Ды доўга не хацеў заснуці прыземісты мужчына; пасінеў на твары, крычаў, вырываўся. Калі-ж ужо заснуў і лекар памыўся, нацягнуў моцныя гумовыя рукавіцы, узяў нож у рукі і прыступіў да стала. Поруч яго стаяў галоўны хірург, заклаў рукі ў кішэні белага хвартуха, прыглядаўся да працы і кіраваў ею.

Зручна і роўна расьцяў нож скуру і жоўтачырвоную тоўшч. З раны выглянуў тугі мускул. З парады старага хірурга лекар адлажыў нож ды намагаўся пальцамі вычуць, дзе гной. Ён расхіліў валокны мускула. Раптам сталася штось страшнае,

нечаканая: выбухла магутная цеча крыві! Выстраліла высака на столь і жывым чырвоным дажджом сплыўла на лекара, пацыента і падлогу.

Узьнялася мятушаніна і крык. Стары хірург крыкнуў: „Кампрэсамі тампануйце рану, то прабіта плячковая артэрыя!“ — і кінуўся да вадаправоду умывацца.

Малады лекар стаў да барацьбы з жывою вызваленаю цечаю. А яна — маўляў быстры горны паток: парвала берагі, раве, лютую, зьмятае ўсё з дарогі; гора, гора ўсім і ўсяму, што сустрэне па дарозі! Так бушавала ашалелая чырвоная цеча. Яня амаль не заўважвала, што чалавекъ з роспаччу ўціскаў ёй у пасьць клубкі шматаў — кампрэсаў. Усё гэта яна зараз залівала, пенілася ды круціла гарачым грозным вірам. То зноў з шумам вырывалася з пад скрываўленых рук лекара і выскаквала з радасным рогатам высока па над яго галавою. Гнулася і сычэла, як цудоўны, чароўны вуж і раптам разпрыскавалася тысячамі — роямі чырвоных зорак. Яны хвілю кружыліся ў паветры і раптам падалі з плюскатам на падлогу. Асыстэнт зьвязаў плячко гумовым вужом, а лекар прыціскаў усёю сілаю кампрэс. Прыпыніўся гон гордае стыхіі. Яна прыціхла, маўляў гатуючысь да новага скоку. Толькі сьлязіла, дзюрчэла...

Ды ня пусьцілі яе на волю; прыскочыў стары хірург, блiснула сталь, загаманілі прылады, хруснулі замкі струмэнтаў. Хутка, як рукі чараўніка, заскакалі яго пальцы, толькі бліскала сталь. Ён ухапіў артэрыю і зачыніў яе і далей стаў зашываці.

Прытрымаў цечу.

Тымчасам лекары-памоцнікі рабілі ўсё, што трэба. Падвязвалі ногі хворага. пад скуру яго зашчыквалі розныя лекі. Зьнялі маску. Зьбялелае, як папера, паказалася аблічча хворага. Сярод крывавае оргіі яно адзінае было беднае, супакойнае і безудзельнае. Напалову адчыненыя вочы, затрачаныя ў цісках наркозы, угледжаны ў сьмерць...

---

З-за кровацечы хворы патраціў многа крыві. У тых умовах кроў — значыць жыцьцё! Па тэлефону выклікалі таго, што меў даці кроў, якую неабходна ператачыць гэтаму чалавеку. Даці? Не, дакладней: прадаці. За грошы.

Ён ляжаў на стале. Гутарыў з лекарамі. У яго павядзеньні было штось задзёрыстае, роблена-сьмелае і важнае. Намагаўся прыкрыць таямнічую трывогу перад найбліжшым няведамым. І пачуцьцё ніякасьці.

Прадажа крыві...

Ён студэнт. Жыці-ж трэба... Прышлося цяжка... От і ён... Ды гэта нічога, ён сільны і здаровы. Ого, сілы ў яго! семдзесят залатых — ну так, ды што там, драбяза! Праўда — кроў не вада; ну, а на вайне — вось колькі крыві праліваецца. Дарагацэнную, жывую і ў гной. Тут-жа магчымасьць ратаваці чалавека...

На леваму плячку раскрылі жылу. Залучылі апарат. У шкляной кольбі закружыў, загуляў чырвоны дэман жыцьця. Кругі яго стрыманым плюскатам біліся аб сьцены пасудзіны і клаліся спакойна на дне. Адна на другую жывая, гарачая, падаючая чырвень. Сіла жыцьця.

Прыкоўвала вочы, магнэтызавала, клікала... Як паводка. Здавалася: яна падніме бунт, разсадзіць пасудзіну і загалосіць пранізлівым крыкам. Яе-ж шляхотную нагла пераганялі са здаровага цела, зьнечаўку і нарачна перарывалі яе важны асьвячоны бег.

Мерылі, прадавалі.

Гэта не ахвяра, — гэта звычайная купля.

Уласьнік яе зьбляднеў. Яго вусны страцілі жывы здаровы колер. Стомленае бледнае аблічча скінула маску. Праз яго бледнасьць бачылася:

Вялікія злыдні, няўпынную, безпасьпеховую барацьбу, даўгія дні бедацтва, зьнясільля, зьняверра, недастатку, голаду...

Барацьбу, неўмалімы прымус.

На дне прыгашаных зрэнкаў: істома.

У бязсільнай усьмешцы: апошняя пастанова:

Прадажа.

---

Прамудрая навука халодным заравам асьвятляла таемніцы жыцьця.

Пераклаў з украінскага **Г. Ш.**

# „Выйдзі спаткаці вясну!“

Гэта павінна зрабіць кожная Беларуская вёска. Ня трэба далёка хадзіць за прыкладам. Яго дае малады Улезлаўскі гуртох. Ён зусім нядаўна паўстаў да працы, але тое, што зроблена ім, годна вялікае увагі. На першым сваім сходзе гурток прыняў пастанову шчыра прыняцца да працы, — першым чынам купіць і паставіць радыё і залажыць бібліятэку. Кожны сябра згадзіўся даць па 10 зл, праўда некаторыя не змаглі за-

плаціць такой сумы і далі па 5 злотых. Ад сябраў сабрана была сума 107 зл. 50 гр., а 67 зл. 50 гр. зложыла гуртку ахвяраў цэлая вёска. Такім чынам за апарат заплацілі 175 зл. гатоўкаю, а на 120 зл. выдалі вэксалёў. Дзякуючы шчырай працы сябраў гуртка ўжо палавіна доўгу заплачана. Была запрошана драматычная сэкцыя Ельцаўскага гуртка, якая 21 траўня паставіла спэктакль на карысьць гуртка у в. Улезлы. Даход 60 зл. пайшоў на пакрыцьцё доўгу за радыё-апарат. Першы раз прасілі дазволу ў пана Старасты на спэктакль у стадолі, — было адмоўлена з прычыны пажарнае небяспекі. „Тады мы — пішуць улезлаўцы — сабралі з вёскі радзюжак, дываноў і палатна, далажылі свае працы, зрабілі аснову будыніны, з бакоў ababілі простымі радзюжкамі, зьверху пакрылі палатном, якое кабеты нашае вёскі прыносілі нам вельмі ахвотна. З сярэдзіны убралі прыгожымі дыванамі і ўквецілі вянкамі з дзеразы, якія былі сплецяны нашымі сяброўкамі. Ладзіць спэктакль ў гэтым будынку нам было дазволена. Публікі сабралася поўна. Усім — і глядзельнікам і артыстам— вельмі спадабалася наша шчырая праца. Наш прыгожы будынак і Ельцаўская трупа ўзапраўды стварылі сьвяточны настрой у нашай вёсцы. Вялікая падзяка Ельцаўскаму гуртку за брацкую дапамогу! Пасьля спэктаклю гурток павялічыўся на 10 новых сябраў і быў сфатаграфаваны каля гэтага будынку, а Ельцаўскія артысты на сцэне“.



**Каб пакрыць страты, нам патрэбна энэргічная грашовая дапамога нашых чытачоў і прыхільнікаў.**

# Разам з песьняй.

Псыхіка беларуса сьцісла зьвязана з жыцьцём вёскі і ягонай натуральнай эстэтыкай, якая так яўна знаходзіць сваё адбіцьцё ў беларускай песьні. Вось чаму песьня самая верная спадарожніца праз усё жыцьцё беларуса, ад прыхода на сьвет да самай магілы.

Дзеля гэтага нам трэба, як у прыватным, так яшчэ больш у грамадзкім жыцьці, клікаць на падмогу сваю песьню, бо яна злучае, прычыняецца да арганізацыі і дысцыпліны, яна ўзгадоўвае і усьведамляе чалавека, дае вучыць тыя асаблівасьці творчасьці народнага колектыву, якія ніколі не даводзяцца ражважаньнямі, а заўсёды паказваюцца ў мастацкіх формах, найболей даступных, як адзінкам, так і агулу. Такія формы: песьня, музыка, сцэна.

У нашых умовах, дзе трэба шукаць бадзёрасьці, будзіць яшчэ санлівых і апусьціўшыхся ў мяшчанскае балота, ўліваць сьвежасьць і сілу стомляным у баёх за пачэснае мейсца для працоўнага народу, асабліва важнага значэньня набірае арганізацыя народных хораў.

Вось чаму мы заклікаем усіх працаўнікоў культурна-грамадзкіх установаў на вёсках і мястэчках прыняцца за арганізацыю хораў, дзе хоць трошкі спрыяюць гэтаму варункі.

Зразумела, што прыклад у гэтай справе павінна паказаць Вільня.

Як-жа прадстаўляецца справа культываваньня народнае песьні на віленскім грунце за апошнія часы? Гэта-ж цэнтр, сэрца Заходняй Беларусі?

Яшчэ некалькі гадоў таму назад у Вільні налічвалася некалькі беларускіх хораў. Асяродзішчам культуры беларускай песьні была перадусім прыватная Віленская Беларуская Гімназія. На музыкальнае падгатаваньне вучняў зьвярталася вялікая ўвага так-жа і ў гімназіях цяпер зьліквідаваных. Няведама ці цяперашняя Дырэкцыя Гімназіі ў Вільні так праводзіць міністэрыяльную праграму, даволі сьцьвердзіць тое, што ў Віленскай Гімназіі беларуская песьня замоўкла. Здаецца, не трывожыць нацыянальнага гонару Пэдагагічнай Рады і Дырэкцыі Гімназіі той факт, што на гадавых выступленьнях хораў сярэдніх школаў Вільні сьвеціць пусткаю Беларуская Гімназія, бо ўзапраўды, нельга-ж лічыць удзел вучняў-беларусаў у аркестры польскай Гімназіі ім. Ю. Славацкага за выступленьне. Палякі, расейцы, ліцьвіны і жыды маюць школьныя хоры і прымаюць вельмі жывы ўдзел у такіх супольных выступленьнях. Заўсёды пасьля школьных канцэртаў прадстаўнікі іншых меньшасьцяў зьдзіўлена пытаюцца: „Дзе-ж Беларусы“? На такое пытаньне трудна бывае даваць адказы. Праўда могуць быць нараканьні на розныя перакшоды, але толькі не ў галіне культу роднае песьні; тут нельга вытлумачыць такой нядбайлівасьці аднымі толькі неістнуючымі перашкодамі.

У беларускіх хорах у Вільні можна было-бы сьцьвердіць поўны і скандальны разгром, каб не Беларускі Хор грам. Шырмы. Ттэба прызнаць, што толькі гэты хор і ратуе цяпер, так сказаць, „музыкальны гонар“ беларускай Вільні. І ратуе вельмі добра.

Ня ёсьць заданьнем гэтай стацьці даваць поўную справаздачу з дзейнасьці хору гр. Шырмы. Даволі будзе зазначыць, што ў бягучым і мінулым годзе, г. знача, у часы найбольшай слабізны віленскіх беларусаў, хор сваё заданьне спаўняў добра ня толькі, як пляцоўка культурная, але і мастацкая. На асаблівую увагу заслугоўваюць выступленьні на грунце вонкавым, дзе хорам захопліваліся ня толькі свае, але так-жа і чужнікі. Такім выступленьнем трэба перадусім назваць канцэрт у Бэрнадынскім

Садзе ў мінулым годзе, а так-жа сёлетні Вечар Беларускай Народнай Песьні ў мурох Віленскага Унівэрсытэту.

На правінцыі ёсьць зусім добры хор у Старым-Сьвержані, працуюць хоры ў Вялікіх-Грынках, Ваўкавыскага павету, ў Беластоку і м-ку Гарадку каля Беластоку, былі калісь хоры ў Вялейцы павятовай у Ярэмічах і Міры, Стаўпецкага павету, у Запольлі, Наваградзкага павету, пэўне-ж і яшчэ дзе-недзе істнуюць дагэтуль у іншых мейсцох.

Сучасная задача кіраўнікоў гэтых хораў пазнаёміцца між сабою, абменяцца думкамі праз „Летапіс", праверыць, абнавіць і асьвежыць свой рэпэртуар (новы будзе друкавацца ў кожным нумары „Летапісу") і ўзяцца супольна за падрыхтоўку да арганізацыі агульнага сьвята Беларускай Песьні ў наступным годзе на пачатку лета. Трэба думаць, працаваць і рыхтавацца да гэтага працягам цэлага году, каб наша песьня паказала нашу сілу і здольнасьць да жыцьця, нашу глыбокую, натуральную эстэтыку, нашу багатую народную творчасьць, каб, узапраўды, пасьля гэтага пра нашу сярмяжную Беларусь, сказалі нашы суседзі:

„То-ж яна з мужыкоў,
А як вышла ў людзі.
Як міне больш гадкоў,
Што-ж тады ўжо будзе"?

---

# Хроніка Т-ва Бел. Школы.

## Ваўкавыскі Акружны Зьезд.

Ваўкавыскі Акружны Зьезд адбыўся 12 сакавіка г. г. з удзелам 78 сябраў і 5 гасьцей. Ад Галоўнае Управы былі прысутныя на Зьезьдзе: Старшыня яе Ф. Стэцкевіч і сябры — д-р М. Марцінчык і Р. Шырма; былі так-жа праз увесь час на Зьездзе і прадстаўнікі адміністрацыйнае ўлады, — пан Стараста Ваўкавыскага павету і заступнік начальніка беспечэнства Беластоцкага Ваяводзтва пан Высокінскі.

Адчыніў Зьезд і сказаў прывітальную прамову Старшыня Галоўнае Управы Ф. Стэцкевіч. У склад прэзыдыюму Зьезду былі выбраны: на старшыню Язэп Грэсь, Сябра Беластоцкае Акружнае Управы, на сэкратара Мікола Бакач, у склад прэзыдыюму былі пакліканы так-жа Стэцкевіч, Марцінчык і Шырма, як прадстаўнікі Галоўнае Управы.

Зьезд распачаў свае абрады каля першае гадзіны дня.

З дакладу гр. Шырмы аб працы Галоўнае Управы выявілася тая вялізарная роля, якую адыграла і цяпер адыгрывае Т-ва ў справе культурнна-нацыянальнага усьведамленьня Беларускага Народу. Карыстаючыся з правоў, якія забясьпечаны нам аснаўнымі законамі Польскае Дзяржавы, Т-ва на працягу некалькіх гадоў праводзіла кампанію дамаганьня урадавай беларускай школы. Цэлымі патокамі цяклі школьныя дэклярацыі ў канцэлярыі школьных уладаў. Народ дамагаўся 500 пачаткавых школаў, і на гэтае дамаганьне было адчынена заледзьве 22 беларускіх і 45 утраквістычных, з якіх да гэтага часу, напэўна, (нават дзе і было штось), нічога беларускага не пазастала, апрача безвартасьцё-

вых лемэнтароў Любіч-Маеўскага. Ня маючы школаў у роднаі мове, Беларускі Народ стыхійна цягнецца да асьветы пазашкольнай; у гэтым яму дапамагала і дапамагае Т-ва, якое мае за сабою тысячы тэатральных пастановак, лекцый, канцэртаў. Было закладзена да сотні Нар. Дамоў, адчынена каля 250 бібліятэк-чытален. Бібліятэка на вёсцы гуртуе каля сябе, як дарослых, так і дзяцей і, па колькі магчыма ў нашых умовах, запаўняе сабою тыя недахопы, якія ствараe адсутнасьць беларускае школы. Такі ненармальны стан вытвараецца дзякуючы варожым адносінам да нас польскага грамадзянства, якое ахоплена пэўным псыхозам, што да беларускага руху, уважаючы яго праявы за „выўратовую" дзейнасьць.

Запраўды-ж Т-ва ня мае і ня мела ніякіх падстаўных заданьняў. Яго задача — нясьці сьвядомасьць, праводзіць культуру духовую, маральную і фізычную сярод шырокіх беларускіх масаў. Гарманійное разьвіцьцё ўсіх бакоў чалавечае натуры: розуму, сэрца, волі і фізычнае прыроды, — вось наша задача. У канцы гр. Шырма прасіў падтрымоўваць Галоўную Управу матэр'яльна, бо цяжкі грашовы стан перашкаджае нармальнаму разьвіцьцю працы.

Прадстаўнік Беластоцкае Акружнае Управы, Я. Гресь зазначыў, што ў Беластоцкім павеце праца пашыраецца: арганізуюцца новыя гурткі, легалізуюцца бібліятэкі, адчыняюцца курсы для няграматных і малаграматных, а за калядныя сьвяты было прачытана на вёсцы каля 40 лекцыяў, якія пакінулі глыбокае і дадатняе ўражаньне на вясковую публіку. У канцы прамовы гр. Грэсь прачытаў прывітаньні Зьезду ад імя культурна-асьветных арганізацыяў Беласточчыны.

Перад дакладамі з мейсц, прадстаўнікі ўлады запрапанавалі дэлегатам выказваць адкрыта, не баючысь, усе свае думкі і скаргі супроць мясцовае адміністрацыі.

Прадстаўнік *Вяліка-Грынкоўскага* гуртка казаў, што праца ў гуртку заняпала з прычыны рэпрэсіяў. Актыўнейшую працу гурток распачаў толькі ў 1932 годзе, дзякуючы лепшым адносінам улады. Ёсьць драматычная і харавая сэкцыі. Пастаўлена 7 спэктакляў. Складкі паступают не рэгулярна.

**Дабравольскі гурток** залажыўся ў 1928 годзе. Пасьля зачыненьня Сьвіслацкае Акружнае Управы праца ў гуртку заняпала. Пасьля далучэньня да Беластоку гурток узнавіў сваю працу. Ад чэрвеня 1932 г. пастаўлена 7 спэктакляў. 1 забаронены. Ёсьць драматычная і харавая сэкцыі, усіх сябраў 67. Спатыкаюцца прычэпкі з боку паліцыі, так камэндант Дабравольскага пастэрунку Маржала прыйшоўшы на вёску гаварыў: „Ня можна чытаць дзецям школьнага веку беларускіх кніжак ня толькі ў бібліятэцы, а нават і ў дома".

**Нязбодзіцкі гурток** залажыўся ў 1932 годзе, мае бібліятэку, адбываюцца спэктаклі, складкі паступаюць рэгулярна. Ёсьць рэпрэсіі. Паліцыя ходзячы па вёскам страшыць арыштамі, ставіць недарэчныя пытаньні: „Да якое вы камуны належыце, да чырвонае, ці да якое іншае"? Камэндант мясцовага пастэрунку, знайшоўшы ў гр. Урбіцкага газэты: „Зэ сьвята", „Сегодня" і „Бюлетэнь" Т-ва, забраў, называючы іх нелегальнымі. Калі Урбіцкі зазначыў, што ўрад дазваляе чытаць гэтыя газэты, камэндант адказаў: „Вышэйшая ўлада дазваляе, а мы можам канфіскаваць".

**Раманаўскі гурток** каля Ізабэліна залажыўся ў жніўні мінулага году. Зрабілі ня многа, пабудавалі хату пад сядзібу Управы, якую яшчэ не накрылі. Зьбіраем ахвяры на пакрыцьцё. Залажылі бібліятэку-чытальню. Дэлегат Абрамчук

зазначыў, што вучыцель польскае школы Матус забараняе дзецям гутарыць па беларуску, за што нават ставіць іх на калені.

**Сьвіслацкі гурток** быў заложаны ў 1927 годзе. Дзякуючы ахвярнасьці сябраў была арганізавана бібліятэка, якая налічвала 500 кніг. Адбылося 15 спэктакляў, з даходу ад якіх адрэмантавалі царкоўны будынак пад Народны Дом. Аднак паліцыя апячатавала будынак, кажучы, што ня добра быў зроблены рэмонт. Пасьля двох гадоў, гэта знача тады, калі ўплыў тэрмін нашага карыстаньня, будынак быў адкрыты. Гурток выдаў на рэмонт гэтага дому каля тысячы злотых. На запытаньне сябры Галоўнае Управы д-ра М. Марцінчыка, ці адміністрацыя ня будзе ставіць перашкодаў, пан Стараста адказаў, што болей забароны ня будзе, але ўлада ня можа прыказаць кліру царквы даць у карыстаньне будынак за патрачаныя на рэмонт грошы. Ад 1930 года па 1933 г. гурток быў завешаны. У бягучым годзе пастаўлена тры спэктаклі. Бібліятэка складаецца з 700 кніг. Ёсьць драматычная сэкцыя, якая працуе добра. Сяброўскія складкі паступаюць не рэгулярна.

**Улезлаўскі гурток** вельмі малады, паўстаў у пачатку 1933 году, сябраў 17. Складкі паступаюць рэгулярна.

**Раманаўскі гурток** каля Сьвіслачы быў заложаны 30-га верасьня 1928 г. У 1931 годзе гурток не працаваў, толькі ў сакавіку 1932 г. прыступіў да інтэнсыўнае працы. 11 верасьня 1932 году драматычная сэкцыя паставіла „Змагары за ідэю“ у вёсцы Новасады, Ялоўскае воласьці. Стшэльцы і паліцыя страшылі публіку, агітавалі не хадзіць на беларускі спэктакль, бо арыштуюць. Аднак нічога не памагло, спэктакль адбыўся, публікі было поўна. Па адыграньні пьесы паліцыя перапісала ўсіх артыстаў. У гуртку 25 сябраў. Бібліятэка складаецца з 150 кніг.

На такія перашкдоы, якія мелі мейсца у вёсцы Новасады, прадстаўнік улады зазначыў, што трэба складаць скаргі, бо як адміністрацыя, так і ўлады Стшэльца такіх рэчаў рабіць не дазваляюць.

**Роскі гурток** быў заложаны ў 1926 годзе; сябраў 30. Спэктакляў пастаўлена 2. Перашкода тая, што роскі ксёндз не пазваляе ставіць беларускіх спэктакляў у будынку належачым да касьцёла. У вёсцы Студзенец будуецца Народны Дом, дзе на прышласьць можна будзе ладзіць беларускія спэктаклі. Бібліятэка-чытальня ў стане не чынным, але, як арганізуецца Акружная Упвава ў Ваўкавыску, думаем, што праца адновіцца.

У **Гарбачоўскім гуртку** складкі ўносяцца рэгулярна па 50 гр. у месяц; ёсьць бібліятэка, сабралі 100 штук кніг, атрымалі так-жа частку кніг ад Акружнае Управы ў Беластоку. Ёсьць перашкоды з боку паліцыі, напрыклад, пастэрунковы Тымінскі пагражаў, што ўсіх паразганяе.

**Ельцаўскі гурток** заснаваны ў 1926 годзе, але з прычыны адміністрацыйных перашкодаў больш шырокае працы павясьці ня мог. Калі адміністрацыйныя адносіны зьмяніліся на лепшае, праца ажывілася. Ёсьць бібліятэка-чытальня і Народны Дом. У мінулым годзе зладжана 8 спэктакляў, за вырučаныя грошы куплены радыё-апарат і нанава адрэмантавана памешканьне Управы гуртка. Усіх сябраў 57, складкі паступаюць не рэгулярна.

Пасьля дакладаў з мейсц і дыскусіі над імі, адбыліся выбары. У склад Управы былі выбраны: Жыўлюк Язэп, Бакач Мікалай, Панотчык Янка, Штоп Янка, Загорскі Яўмень, Амшэй Алесь і Харук Лукаш; у Наглядную Раду: Шмыга

Рыгор, Качко Міхась, Зарэцкі Хвёдар, Янушкевіч Уладзімір і Павіліч Янка. Дэлегатамі на Агульны Зьезд ад Ваўкавыскага вокругу былі выбраны Шчыглінські Сьцяпан і Урбіцкі Янка.

Акружны Зьезд прыняў пастанову дапамагчы матэр'яльна, як Акружнай, так і Галоўнай Управе.

Абрады свае Акружны Зьезд закончыў у 9 гадзін вечара пяяньнем гымну „Ад веку мы спалі“.

Пасьля афіцыяльнай часткі абрадаў гр. Шырма прачытаў даклад на тэму: аб значэньні літэратуры ў жыцьці адзінкі і грамадзянства, які быў праслуханы ўсімі дэлегатамі з вялікім зацікаўленьнем.

---

Зьезд прайшоў у найлепшым парадку. Здавалася, што ўжо пачнецца спакойная творчая праца новаабранай Акружнай Управай. Аднак лёс ухмыльнуўся крывою ўсьмешкаю беларускім імкненьням да шырэйшай працы на ніве роднае культуры. Павятовы Стараста забараніў працу новаабранай Акружнай Управе, матывуючы тым, што асобы ў складзе яе не даюць належнай гваранцыі вядзеньня працы ў рамах статуту.

Праз некатары час былі завешаны ў сваей дзейнасьці і наступныя гурткі: **Нязбодзіцкі**, **Ліхасельскі, Раманаўскі каля Сьвіслачы і Дабравольскі.**

---

* * * На Агульным Сходзе **Раманаўскага** гуртка каля Ізабэліна, адбыўшымся 9 красавіка, выбраны аднагалосна Старшынёй Управы гуртка Фадзей Сяргей, а на Скарбніка Пятро Загорскі. Прыняты пастановы: 1) як найхутчэй выканчыць уласнымі сіламі дом пад сядзібу Управы гуртка, 2) залегалізаваць бібліятэку-чытальню, а кошты легалізацыі пабраць з сяброўскіх складак і 3) абавязкава сабраць залеглыя складкі.

* * * Культурная праца **Ельцаўскага гуртка,** як нам пішуць, набірае ўсё большай сілы. 21 траўня ставілі спэктакль у вёсцы Улезлы. Адыгралі „Заручыны Паўлінкі“, Ф. Аляхновіча, „Лекары і лекі“, Гаротнага і „Зьбянтэжанага Саўку“, Родзевіча. На Сёмуху, 4 чэрвеня, ставілі ў Ельцаўшчыне другі раз „Апошняе спатканьне“. Даведаўшыся, што дня 18 траўня Галоўная Управа мела суд другой інстанцыі і што ўсё кончылася папярэднім прысудам, т. е. поўным апраўданьнем, — сябры Ельцаўскага гуртка шлюць сваё шчырае жаданьне, каб Галоўная Управа і надалей інтэнсыўна працавала на карысьць працоўнага Беларускага Народу.

* * * **Гарбачоўскі гурток,** Сьвіслацкай валасьці, павялічыўся на 7 новых сябраў. 4 чэрвеня пастаўлены пьесы: „Янка Канцавы“, „Міхалка“ і „Пярэстая красуля“. Даход ад прадажы білетаў 42 зл. 65 гр., расходавана 4 зл. 30 гр.; 9 ліпеня былі адыграны: „Птушка шчасьця“ і „Модны шляхцюк“, білетаў продана на 34 зл. 35 гр., расходавана 14 зл. 10 гр. Тэатральная сэкцыя ад пачатку залажэньня, г. зн., ад 11 сакавіка зладзіла 5 спэктакляў з агульнай выручкай 169 зл. 75 гр., з якіх вырасхадавана 71 зл. 95 гр. Пазасталая сума так-жа пойдзе на культурна-асьветныя мэты. Пастаноўка пьесы „Змагары за ідэю“, пасьля першай рэпэтыцыі, адложана да вальнейшага часу.

* * * Першы **Арганізацыйны Сход Даранеўскага гуртка,** Падароскай валасьці, адбыўся 9 ліпеня. У склад Управы гуртка выбраны: на Старшыню — Аляксей Гусінец, на Сэкрэтара — Андрэй Талай, с. Янкі, на Скарбніка — Андрэй Талай, с. Міхася. Адначасна прынята паі станова адчыніць бібліятэку - чытальню. На загадчыка бібліятэкаднагалосна выбраны Рыгор Навіц-

кі. Бібліятэка будзе месьціцца ў хаце Якуба Навіцкага. Прадстаўнік Ельцаўскага гуртка Язэп Амшэй даваў паясьненьні, як трэба вясьці культурна-асьветную працу, пры чым быў прачытаны статут Т-ва Беларускае Школы. У бягучых справах прынята пастанова пабіраць сяброўскія складкі па 30 гр. у месяц. Пасьля Сходу быў адсьпяваны гымн „Ад веку мы спалі“.

Галоўная Управа засылае маладому гуртку шчырае пажаданьне добрага пасьпеху ў працы на ніве роднай культуры і асьветы.

---

*** За ахвярную і адданую культурную працу Галоўная Управа, як знак сваёй пашаны, высылае Улезлаўскаму гуртку камплект кніг для бібліятэкі-чытальні, а Ельцаўскаму выносіць шчырую падзяку за добрую арганізацыю, акуратнасьць у справаздачах з дзейнасьці і прымернае правядзеньне культурнае працы на вёсцы.

## На Віленшчыне.

**Бараньскі гурток,** Сьвенцянскага павету, меўся 28 траўня ладзіць спэктакль у вёсцы Дамуці, Лынтупскае воласьці. Усё было прыгатавана да прадстаўленьня, але-ж Сьвенцянскі Стараста раптам адмовіў дазволу. Цікавая рэч, што на той самы спэктакль быў дазвол, калі ставілі ў сваёй вёсцы, калі-ж захацелі паехаць у чужую вёску і воласьць, дык атрымалі забарону. Управа гуртка зьвярнулася да п. Віленскага Ваяводы з просьбай скасаваць пастанову Сьвянцянскага Старасты і выдаць дазвол на спэктакль. Адказу не атрымана.

Гуртком арганізавана бібліятэка-чытальня, для якой Галоўная Управа сабрала 50 экзэмпляраў кніг.

**Выкрасьленьне з рэестру. Маладэчанскі Стараста** выкрасьліў 26-X 32 г. з рэестру за „непраяўленьне ніякай дзейнасьці ад засаваньня“ 18 гурткоў у наступных вёсках: Гірэвічах, Кабылках, Бакштах, Пажарышчы, Задворцах, Сухапараўшчыне, Татарах, Селеўцах, Зарудзічах, Даўгім Логу, Маладэчне, Раеўшчыне, Новай Бухаўшчыне, Капачах, Пятроўшчыне, Пузэлях і Крапіўніках.

**Пастаўскі Стараста** за тое-ж самае выкрасьліў 26-XI 32 г. з рэестру 10 гурткоў у вёсках: Брусах, Навасёлках, Юшкевічах, *Мядзёльскае воласьці,* Кашыцах ,Целяках, Чортах, Васілінах, Грыцьках, Лапосях, *Пастаўскае воласьці,* м-ку Воўкалаце і Шыльках, *Ваўкалацкае воласьці,* Пажарцах, *Грудзоўскае воласьці,* і Бадзенях, *Жосьнянскае воласьці.*

**Дзісьненскі Стараста** 4, 10 і 11 студзеня 33 г. таксама выкрасьліў з рэестру за тое-ж самае непраяўленьне дзейнасьці 10 гурткоў у наступных вёсках: Перадолах, Недзьведзічах, Каралевічах, *Галубіцкае воласьці,* Кульгаях і Шо, *Празароцкай воласьці,* Плісе і Сьвілі, *Пліскае воласьці,* Плявоках, *Глыбоцкае воласьці,* Літоўцах, *Порплiскае воласьці* і Блошніках, *Язьненскае воласьці.*

Ува ўсіх вышей пералічаных выпадках падаецца, што Управы гэтых гурткоў на запытаньне адказалі, што просяць аб іх ліквідацыі, бо гурткі фактычна не працуюць. Але чаму яны не маглі працаваць?... Адказ на гэтае пытаньне крыецца ў умовах нашага жыцьця і працы.

## На Палесьсі.

Пасьля ліквідацыі дзейных гурткоў не паведамляючы Галоўнае Управы аб прычынах зачыненьня (а нават аб самым факце) у Пружанскім і Косаўскім паветах, зачынена і Косаўская Акружная Управа з тае прычыны, што „яна

ня мае сэнсу існаваньня без гурткоў". А ў іншых паветах зноў не давалі Галоўнай Управе адчыняць гурткоў, дамагаючысь для іх арганізацыі (§ 14 статуту) згоды не існуючай Акружнай Управы хаця § 16 статуту выразна кажа, што „арганізацыя Гурткоў і *Вокругаў* належыць да кампэтэнцыі Галоўнае Управы".

---

*** **Важная справа.** Мы наглядаем вялікі культурна-нацыянальны рух, і вялікую самаахвярнасьць людзей у гэтым руху. Тых людзей, якія маюць асаблівыя заслугі ў гэтым руху, згодна нашага статуту, можна залічаць пачэснымі сябрамі Т-ва. Дзеля гэтага Галоўная Управа мае на мэце правясьці ў жыцьцё на чародным Агульным Сходзе §§ 10—11 нашага статуту, г. знача найбольш заслужаных адзінак прадставіць на пачэсных сябраў, каб запраўдныя змагары на культурнай ніве не пазаставаліся ў ценю, як было дагэтуль.

Апрача таго Галоўная Управа будзе адзначаць найлепшых культурных працаўнікоў цэннымі кнігамі, будзе зьмяшчаць іхнія фатаграфіі ў „Летапісу". Для гурткоў будуць давацца камплекты кніг, як прэміі за працу.

У наступным нумары будуць вызначаны прэміі для асоб і арганізацый, якія найбольш прычыняцца да пашырэньня „Летапісу", да зьбіраньня ахвяр і падпіскі. Будуць так-жа назначацца прэміі за найлепшыя творы: апавяданьні, вершы і пьесы для сцэны, якія будуць друкавацца ў „Летапісу".

*** **Новыя гурткі.** Паступілі заявы на залажэньне новых гурткоў у в. Грыневічы, Ваўкавыскага павету і ў в. Баброўнікі, Горадзенскага павету.

*** **Шукаюць абліччa.** „Беларуская Крыніца" (№ 17 г. г.) ізноў патрэбуе ад Т. Б. Ш. асьвятліць яго абліччa, бачучы разыходжаньне ў справаздачы аб Беластоцкім Акружным Зьезьдзе 20-XI 32 г. па „Бюлетэню" Т-ва і ў „Справах Народовасьцёвых"

У нашым Бюлетэні не парушалась пытаньне, неспадзявана высунутае на Зьезьдзе прадстаўніком улады, аб выпадку збройнага выступленьня на шасэ Беласток—Гарадок, дзе падазроны ім таксама удзел сябраў Т-ва, калі абстрэліваўся аўтобус, у якім знаходзілісь жанчыны і дзеці. Пры гэтым прадстаўнік улады прасіў Зьезд выказаць свае адносіны да гэтага здарэньня. Такое пытаньне зразумела ў вуснах прадстаўніка ўлады.

Шуканьне-ж нашага абліччa ў пытаньнях аб збройных выступленьнях, ці лёяльных або нелёяльных адносінах да ўлады,— з боку „Беларускай Крыніцы", кажучы далікатна, выглядае дзіўна.

Наша абліччa выяўляецца ў нашай штодзеннай працы, у тым, што намі зроблена і робіцца. Хто чытаў нашы „Бюлетэні" і „Летапіс", хто быў на вёсцы, таму ня трэба зусім асьвятляць абліччa Т. Б. Ш.

Беластоцкі Зьезд быў многалюдны і сьвядомы сваіх культурна-нацыянальных шляхоў, таму ўсякая культурна-нацыянальная здрада ў той-жа момант была-б асуджана раней „Крыніцы", або такога „Сьветача Беларусі", які нават бярэцца паказваць нам свае „залатыя" шляхі.

---



Хор і аркестра б. гуртка Т. Б. Ш. у в. Запольле, Карэліцкае воласьці, Наваградзкага павету.

# На слаўным становішчы.

**(Праца тэатр. - харавой сэкцыі б. Ст. - Сьвержанскага г-ка).**

Першае выступленьне тэатральна-харавой сэкцыі Стара-Сьвержанскага гуртка адбылося на калядьі 1927 году. Па адыграньні пьес: „На вёсцы“ і „Стараста“, выступіў хор з песьнямі: „Добры вечар дзеўчына“, „І ўчора гараў“ і „Дзяўчынанька чорнаброва“ Гэтая першая спроба прайшла вельмі добра; тут адразу выявіліся здольнасьці да артыстычнай працы паасобных адзінак, а Гарановіч Міхась зьвярнуў на сябе ўвагу, як арганізатар і здольны рэгент хору.

Моладзь, падахвочаная добрымі вынікамі першага выступленьня, з падвойнай энэргіяй узялася за працу. Незабаўным часам была наладжана другая вечарына; калі ставілі ўжо „Птушку шчасьця“ і хор адсьпяваў новыя песьні: „Наш край“, „Я сёньня тут“, „О ня кукуй, зязюленька“. Гэтая вечарына прайшла яшчэ лепей Прыгожае выкананьне роляў артыстамі наагул, і асабліва Ганнаю Валавічанкаю ў ролі Маланкі, было вялікаю неспадзеўкаю для публікі, перапоўніўшай памешканьне школы. Хор падмацаваны новымі сіламі выказаў вялікі поступ. Ужо маленькая школьная сцэна паказалася цеснай для далейшай працы сэкцыі.

Восеньню 1928 году сэкцыя ладзіць першы спэктакль у горадзе Стоўпцах. У гэты вечар Стоўпцы першы раз убачылі на сваей сцэне беларускую пьесу, і першы раз з гэтай сцэны разьлягліся гукі беларускай народнай песьні. Беларускае, польскае і жыдоўскае грамадзянства, выпаўніўшае па берагі агрімадную салю, гучнымі воплескамі выражала сваё задаваленьне, як ігрою артыстаў, так і песьнямі хору. Некалькімі тыднямі пазьней праграму Стаўпецкага вечару з няменьшым пасьпехам паўтарылі ў м-ку Новым - Сьвержані. Ад гэтага часу папулярнасьць тэатральна - ха-

равое сэкцыі стала ўзрастае: пад час ладжаньня наступных вечарын зьбіраецца маса публікі з суседніх нават вельмі далёкіх вёсак.

Маючы добры хор, пад кіраўніцтвам талентнага і ахвочага да працы М. Гарановіча, маючы так сама добрыя і здольныя артыстычныя сілы, сэкцыя гуртка пачынае рэгулярна ладзіць падобныя вечарыны-спэктаклі, асабліва часта ў зімовы час. Так цягнулася да канца 1931 году.

Ад гэтага часу, дзякуючы таму, што Т. Б. Ш. наагул перажывала цяжкія хвіліны, тэатральныя выступленьні спыніліся, але хор яшчэ з большай энэргіяй прадаўжае сваю працу. Так у тым-жа 1931 годзе, беручы удзел ў конкурсе хораў, Ст.-Сьвержанскі хор здабывае другое мейсца, а рэгент хору М. Гарановіч атрымлівае пахвальны ліст. Асабліва-ж добрае ўражаньне на стаўпецкую публіку зрабіла выступленьне хору на Сёмуху 1932 году на беразе Нёмана, дзе канцэртная праграма складалася з песень: „Не пагаснуць зоркі ў небе“, „Наш край“, „Люблю наш край“, „Ой там у лесе грыбы зарадзілі“, „Ой у садзе вінаградзе“, „Дуда“, „Ці сьвет, ці сьвітае“, „Каля плоту крапівушка“ і іншыя Праз некалькі месяцаў хор зноў выступае ў гор. Стоўпцах, прымаючы удзел у канцэрце беларускай песьні.

За апошнія часы Ст.-Сьвержанскі хор выступаў: тры разы ў Стоўпцах, адзін раз у Новым-Сьвержані і два разы ў Старым. Рэпэртуар гэтых выступленьняў быў папоўнены новымі прыгожымі песьнямі, як арыгінальнымі на словы нашых паэтаў, так і народнымі, прыгожа апрацаванымі для хору лепшымі кампазытарамі.

На асаблівую увагу ў справе арганізацыі хору заслугоўвае гр. М. Гарановіч, які маючы на сваім утрыманьні сямью і будучы хворым на лёгкія, усё-ж не шкадуе часу ні сілы на удасканаленьне свайго хору. Маючы багаты слух, ён саматугам здабыў сабе сьпявацкую навуку і цяпер адкрывае нашым людзям хараство беларускае песьні. Яго няўпынная праца так узмацніла хор, што ў цяперашнія хвіліны канцэртныя выступленьні зьяўляюцца адзіным беларускім асьветным дзейнікам у шырокай Наднёманскай ваколіцы. Беларуская песьня, выцісьнуўшы чужыя наплывовыя „брандзюшкі“, запанавала сярод вясковай моладзі вакалічных вёсак. Дзякуючы Стара-Сьвержанскаму хору, гукі беларускай песьні пакаціліся далёка, ува ўсе бакі, будзячы працоўны люд да жыцьця.

---

Так пішуць нам з вёскі.

Яшчэ нядаўна казаў паэт аб нашым Зачарованным Краю, што над ім —

„Паміж небам-землёй самаграйка-дуда
На грудзёх дзеда-Сонца вісела“.

Спала дуда, маўчалі гукі, ніхто іх ня будзіў наўкола. І толькі дуда „лятуцела ўва сьне, на Русь Белую думкай шыбала“ і бачыла:

...абяздолены край
Між балот і лясоў дрэмле ціха.
Па лугох і палёх жабраком ходзіць Бай,
Па шнурох мчыцца Злыбяда-Ліха.

Край той сьпіць, як стары занядужаны дзед
За цямнюткай за курнай пячуркай,
А над краем відаць сьветлы зорачны сьлед,
Пазахован пад шэраю хмуркай.

Ой каб быў там песьняр, сівабровы дудар,
У забытай, загнанай старонцы, —
Ён падняў-бы людзей, разварухаў абшар
І паклікаў-бы ў госьці да сонца“!

Цяпер гэты Зачарованы Край ужо ня сьпіць. Над ім ясны зорачны сьлед, хмаркі разьвеяў ветрык. Па цёмнай зямлі ўжо гарыць-палае вагнямі радасьці і веры не адно сэрца маладога песьняра. Народ ня сьпіць, Народ, акрыляны песьняй, зварушаны думкай-ідэяй, ідзе „ў госьці да сонца“. У гэтым яму памагаюць вось такія маладыя песьняры, аб якіх была гутарка вышэй.

І ўсіх гэтых маладых, з праменістай, сонечнай душой, кліча песьня разам з сабою, каб будзіць тых апошніх Зачарованага Краю, што яшчэ сьпяць і ня чуюць роднай песьні:

„Аб сялянскіх шнурох аб жывой грамадзе,
Аб турботах забытага краю“...

---

Д-р М. МАРЦІНЧЫК.

# Сухоты і барацьба з імі.

**1. Што такое сухоты.** Сухотамі называецца хвароба, якую выклікае асаблівая бактэрыя[1]), званая палачкай Коха[2]). У арганізме, куды пападае палачка Коха, пачынае разьвівацца асаблівая грудка (маленькі верад), якая гніе і распадаецца, а на месца яе застаецца рана. Гэтая бактэрыя — палачка Коха — можа пасяліцца ў любой частцы чалавечага цела, — і таму сухоты бываюць: сухоты лёгкіх, сухоты мозга і мазгавых абалочак, сухоты языка, горла, кішак, нырак, скуры і г. д. Палачка Коха, пасяліўшысь у людзкім целе ня толькі раніць і нішчыць яго, але яшчэ да таго выдзяляе асаблівую атруту, званую тубэркулінам. Гэтая атрута ідзе ў кроў і затручвае ўвесь арганізм. Ад гэтага хворы траціць апэтыт, бляднее, худзее — словам сохне. Адгэтуль і назова сухоты.

**2. Як заражаюцца сухотамі.** Найчасьцей сухоты разьвіваюцца ў лёгкіх і таму-то ў шырокіх масах разьвіта паняцьце аб сухотах, як аб хваробе лёгкіх. У лёгкіх хворага на сухоты разьвіваецца маса вышэйапісаных грудак, якія сыравацеюць, (маса іх пахожа на тварог—сыр), разгніваюцца, распадаюцца і выкашліваюцца з флегмаю, а калі зьнішчаць жылкі—крывяходы, то хворы кашляе кроўю (кроў ідзе з горла).

У выкашлянай флегме знаходзяцца бактэрыі Коха. Падчас кашлю частка флегмы разьлятаецца ў відзе вельмі дробных частак, чаго вокам ня ўгледзіш; а ў гэтых частках якраз і знаходзяцца палачкі Коха, якія

---

[1]) Бактэрыя — асаблівая вельмі дробная істота, якую можна бачыцъ толькі праз мікраскоп, які павялічае ў 1000 і болей разоў. Ёсьць бактэрыі карысныя і шкодныя; карысныя, якія выклікаюць бражэньне, скісаньне, гніеньне, пры разумным карыстаньні імі маюць вялікае значэньне ў гаспадарцы. Шкодныя—выклікаюць масавыя хваробы—эпідэміі.

[2]) Кох Робэрт (1843 — 1910), выдатны нямецкі бактэрыёлёг. Адкрыў бактэрыі сібірскай язвы, сухотаў і халеры.

носячыся ў паветры, пападаюць у дыхавыя ходы акружаючых хворага людзей і заражаюць іх. Асабліва лёгка заражаюцца сухотамі дзеці. Калі флегма, выкашляная сухотнікамі, паляжыць і высахне, то палачкі Коха ад гэтага ня гінуць, а ў сухім стане паднімаюцца з пылам у паветра, пападаюць у дыхавыя ходы людзей і заражаюць іх. [3]).

У сухотнікаў сухотная зараза застаецца на губах, вусох, барадзе, і руках, калі ён рукою выцірае рот. І таму ад сухотнікаў лёгка заразіцца, карыстаючысь супольнаю ложкаю, міскаю ці ручнікам, а таксама ў часе цалаваньня ў губы, (асабліва гэта небясьпечна для дзяцей). Апрача людзей на сухоты хварэюць іншыя жывёлы: каровы, кошкі, сабакі, птушкі і інш. У малацэ хворае каровы знаходзіцца сухотная зараза — палачка Коха, якая, калі чалавек выпье заражанага малака, папаўшы ў стравахoд заражае яго. І тут ізноў найбольшая небясьпека для дзяцей [4]).

Каровы не так ужо рэдка хварэюць на сухоты. У Даніі з 3 кароў адна сухотніца; у Бэрліне з 6 кароў адна сухотніца; у Францыі ў 1919 г. чацьвёртая частка кароў хварэла на сухоты; у Англіі ў 1918 годзе больш як палова кароў была заражана сухотамі.

**3. Умовы не спрыяючыя і спрыяючыя сухотам.** У мясцовасьцях густа заселяных, сухотная зараза знаходзіцца ўсюды, і таму-то нават немагчыма ўсьцярагчыся, каб не заразіцца сухотамі. Выходзіць, што чалавек з усіх бакоў акружаны сухотнаю заразаю і здавалася-б няма выхаду.

Аднак арганізм людзей мае здольнасьць бароцца з сухотамі многімі спосабамі. Так палачкі Коха, што чалавек праглынае з ежаю, забівае страўнікавы сок. З палачкамі, якія трапляюць у арганізм праз дыхавыя ходы, змагаецца арганізм такім чынам. Дыхавыя трубкі лёгкіх высланы асабліваю сьлізяваю балонкаю, якая мае на сваёй паверхні маленечкія выростачкі, падобныя да валаскоў (іх можна ўбачыць толькі праз мікраскоп). Валаскі гэтыя (ці інакш варсінкі) рухаюцца ўсе ў адзін бок: з сярэдзіны ўверх. Дзякуючы гэтаму пыл разам з сухотнаю і іншаю заразаю, што трапляе ў дыхавыя ходы і асядае на іх, зсоўваецца ўверх валаскамі—варсінкамі разам з сьлізьзю, якая выдзяляецца ў дыхавых ходах, і выхарківаецца вон. Гэтак арганізм не дапускае заразы да сябе. Але і з тымі палачкамі Коха, што ўжо трапілі ў цела, арганізм таксама умее змагацца. У адказ на атруту, што выдзяляецца палачкамі Коха, арганізм выдзяляе проціатруту. Ад гэтай проціатруты палачкі Коха слабеюць і павальней разводзяцца. Вакол сухотнае грудкі разьвіваецца злучальная тканка і рубец, а часамі там адкладаецца вапна і сухотнае гняздо „камянее“. Палачка Коха замірае і хвароба супыняецца. Так адбываецца барацьба з заразаю ў моцным арганізме.

Усё-ж тое, што аслабляе арганізм спрые сухотам.

Пьянства і курэньне выклікаюць катар страўніка (жалудка) і таму страўнікавы сок траціць здольнасьць забіваць палачкі Коха, калі яны пападаюць з ежаю ў страўнік. Пьянства і курэньне выклікаюць катар дыхавых ходаў і таму валаскі-варсінкі трацяць здольнасьць выдаляць палачкі Коха, якія трапляюць у дыхавыя ходы. Пьянства аслабляе ўвесь арганізм і таму траціцца здольнасьць бароцца з сухотнаю заразаю, калі яна ўжо загнязьдзілася ў арганізме. Так ува Францыі вылічылі, што там, дзе

---

[3]) Вось чаму сухотнік — а таксама і здаровы — кашляючы павінен закрываць рот; ніколі ня можна пляваць на падлогу ці на зямлю, а ў сьплявачку, напоўняную вадою з карбоўкаю.

[4]) Таму-то найлепш даваць дзецям перакіпячонае малако.

выпіваецца на душу 30—40 літраў віна, ад сухот памірае 12%; дзе выпіваюць 50—60 літраў;—памірае ад сухот 15%; дзе выпіваюць 90 літраў — памірае 31%.

Непамерная і непасільная праца аслабляе здольнасьць арганізму бароцца з сухотамі.

Цеснае, сырое і цёмнае памяшчэньне — гняздо сухот.

Камянны, мэталёвы (і расьлінны) пыл, трапіўшы ў дыхавыя ходы, раніць іх і выклікае катар; таму работнік, які працуе ў умовах, дзе паветра перапоўнена гэтым пылам, лёгка можа захварэць на сухоты.

Вось чаму так шкадлівы некатарыя прафэсіі, што відаць з гэтай табліцы, дзе паказана, прадстаўнікі якой прафэсіі найбольш хварэюць на сухоты.

СЬМЯРОТНАСЬЦЬ АД СУХОТ НА КОЖНЫЯ 1000 ЧАЛАВЕК.

| Назоў прафэсіі: | Колькасьць | Назоў прафэсіі: | Колькасьць |
|---|---|---|---|
| Рудакопы алавяных рудняў | 81,6 | Пільшчыкі | 12,1 |
| Падзёншчыкі, чорнарабочыя | 49,1 | Вучыцялі | 12,0 |
| Наборшчыкі | 30,0 | Адвакаты | 9,2 |
| Шаўцы | 27,1 | Садоўнікі | 8,3 |
| Краўцы | 24,8 | Земляробы | 7,6 |
| Кавалі | 15,8 | Лясныя старажы | 7,2 |
| Сталяры | 15,0 | Духавенства | 5,5 |

Як бачым найбольш хварэюць і паміраюць на сухоты работнікі, якія працуюць у мэталёвым пылу пад зямлёю, гэта значыць там, дзе сыра, мала чыстага паветра і няма сонца Далей ідуць работнікі, што працуюць у расьлінным пылу. Меньш паміраюць ад сухотаў тыя, хто працуе на вольным паветры і найменьш духавенства.

З усяго вышэйсказанага відаць, што сухоты гэта хвароба беднаты—пралетарыяту. Сухоты—хвароба, якая залежыць ад матэрыяльна-эканамічнага і культурнага стану людзей.

Голад, холад, цемра і бяда вось спадарожнікі сухотаў.

*(Заканчэньне будзе).*

# Ціхая трагэдыя.

Вастрата школьнага пытаньня паўстае на беларускай вёсцы ўва ўсёй паўнаце і шыраце. Беларускай школы блізу што няма зусім, а істнуючая польская не адпавядае вымогам нашага жыцьця, а знача не прычыняецца да зьмяншэньня няграматнасьці. Самы цяжкі прыгавор для школы тады, калі яна ня можа навучыць дзіця любіць друкаванае слова, не паказвае выхаднога пункта для яго далейшага поступу і разьвіцьця. Многа прычын дзеюць у гэтым напрамку, і адна самая важная, — гэта падыход польскіх школьных уладаў да беларускага вясковага жыхарства. Узапраўды-ж, там, дзе трэба паразумевацца з дзяцьмі праз тлумача, дзе шмат якія вучыцялі з пагардай адносяцца да роднай мовы беларускага дзі-

цяці, дзе натуральныя духовыя патрэбы люднасьці, якая шануе сваё роднае, дрыжыць за яго, не знаходзяць належнага зразуменьня,—там толькі магчымы всєь такія малюнкі, як ніжейпаданае пісьмо-просьба да Пана Міністра Асьветы ад сялян вёскі Кожава, Стаўпецкага павету:

„Мінае ўжо 12 гадоў з таго часу, ад каторага істнуе у нас польская школа. Дванаццаць гадоў, як абавязвае нас прымусовая навука, і што-ж мы бачым? Нашыя дзеці прахадзіўшы 7 гадоў у гэтую школу застаюцца няўмекамі. Ні воднае з іх ня можа чытаць і пісаць ні па польску ні па беларуску. Гледзячы на наша падрастаючае маладое пакаленьне проста бярэ жах. Кожны з нас балеець душой за будучыню гэтага пакаленьня, якое расьце ў поўнай цемры. Кніжка для нашай моладзі, якая прайшла польскую школу, ёсьць незразумелай, у якой-бы мове ні была яна напісана, бо, як зазначана вышэй, ніхто з маладых людзей ня ўмее яе чытаць. Ня раз чытаем у польскай афіцыяльнай прэсе аб тым, што Польша паставіла сабе за заданьне зьнішчыць няграматнасьць цалком. Аднак у нас робіцца наадварот; няграматнасьць не выкараняецца, а пашыраецца. Прычына гэтаму ёсьць адна: насельніцтва нашай вёскі беларускае, а школа польская. Дзеці нашы, не разумеючы польскай мовы, ня могуць навучыцца граматы ў чужой школе і ў чужой мове.

Ведаючы, што школа ў чужой мове ня можа навучыць граматы нашых дзяцей, мы ў 1927 годзе злажылі на падставе істнуючых законаў 40 дэкларацыяў на 60 з лішнім дзяцей з дамаганьнем Беларускае Школы, аднак п. Куратар Віленскае Школьнае Акругі прызнаў чамусьці важнымі дэкларацыі толькі на 27 дзяцей, а рэшту, не падаўшы ніякіх прычын, унязажніў. Дзеля гэтага ў нас засталася зноў польская школа. На гэтую пастанову п. Куратара мы злажылі скаргу ў Міністэрства Веравызнаньняў і Публічнае Асьветы, аднак і па сёньняшні дзень ніякага адказу не атрымалі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дзеля ўсяго вышэй пералічанага просім Пана Міністра:

Адчыніць у нашай вёсцы заместа школы польскай, школу беларускую, на якую мы маем законныя правы.

Даць нам магчымасьць вясьці культурна-асьветную працу сярод дарослых і даць нам магчымасьць зарганізаваць гурток Т-ва Беларускае Школы“.

Кожава, дня 16-VII 1933 г.

Гэтае цікавае пісьмо, пададзеннае намі з захаваньнем яго стылістычных асаблівасьцяў, падпісана 78 сялянамі, з якіх ані адзін ня мае меней 30 гадоў. З прычыны браку мейсца прозьвішча іх не пералічаем.

Народ дамагаецца роднай беларускай школы і разам бароніць сваю родную культурна-асьветную арганізацыю — Т-ва Беларускае Школы.





Гурток Т-ва Б. Ш. у м. Азярніца, Слонімскага павету (зьліквідаваны). Меў свой Народны Дом, бібліятэку - чытальню і радыё - апарат.

# За культурны адпачынак пад час летняе працы.

Такое заданьне павінна паўстаць перад кожным гуртком Т-ва, перад кожным сьвядомым працаўніком на культурнай ніве, перад беларусам-студэнтам, які зараз пасьля зімняе вучобы вярнуўся на вёску, мястэчко, каб адпачыць, набрацца новых сілаў.

Яго, гэтае заданьне, высоўвае на парадак дня наша шмат тысячная беларуская моладзь, сярэдні і нават старэйшы век, калі, вярнуўшысь з поля, паставіўшы плуг у вазоўню, дарэмна траціць хвіліны вольнага часу пасьля вячэры кожнага дня, а яшчэ больш дарэмна ў сьвяточныя дні; у найлепшым-жа выпадку праходзяць вольныя хвіліны ў розных гутарках, дзе-небудзь на ўзгорку пад вярбою.

Наш абавязак — гэта даваць ня толькі культурную духовую страву працаўніку селяніну, але нясьці яму і здаровы культурны адпачынак, пабудаваны на творчасьці самых шырокіх мас, ў розных формах і відах.

У першым нумары нашага „ЛЕТАПІСУ“ мы маем вельмі багатыя малюнкі, гэраічныя прыклады ў галіне творчасьці з Косаўшчыны, Ваўкавышчыны, Пружаншчыны і Беласточчыны. У чым-жа яны выяўляюцца? Першае і галоўнае — гэта сцэна: пастаноўкі, дэклямацыі, сьпевы... Пяць сэансаў за вечар... людзей поўна.. Вось патрэбы нашага працоўнага Народу! Вось яго культурны ўзрост! Праўда, ня ўсюды мы маем такія дасягненьні але-ж тут неабходна лічыцца і з тымі ўмовамі, якія да таго перашкаджаюць, што ў некаторых мейсцох нават пастаноўкі бываюць вельмі рэдкім госьцем у нашай хаце.

Што-ж тады рабіць?

Трэба надалей пашыраць працу нашае беларускае сцэны, тварыць сваіх артыстаў, і поруч з гэтым нясьці на вёску даўно істнуючыя формы адпачынку — розныя гульні, як, напрыклад, гарадкі, гульні

з мячом, волейболь *) (ангельскі упрошчаны фудбол), кашоўка, трэба вучыцца добра плываць, змагацца з вадою, праводзіць вельмі рухлівыя розныя гульні, займаючыя многа удзельнікаў: кот і мышка, трэці непатрэбны, ноч і дзень, эстафета і інш. Апрача гэтага прачытаць добрую кніжку, газэту, „ЛЕТАПІС“, даць сваю думку аб іх. Рознымі шляхамі імкнуцца ўпарта да аднаго, — нясьці культуру, прабуждаць сьведамасьць нашага Беларускага Народу. У гэтай паважнай ганаровай працы павінны прыняць найжывейшы ўдзел гурткі Т-ва, кожны яго сябра паасобку і ў прыватнасьці кіруючая частка Не павінна трымацца з боку ад працы і беларуская вясковая інтэлігэнцыя. Пры ўсякіх відах культурнай працы мы павінны старацца павялічыць сябе колькасна, бо гэта нам забясьпечыць лепшае правядзеньне яе, дасьць большыя вынікі.

Дружна, разам возьмемся за нашу агульную справу — культурны адпачынак — за сваю ўласную сьведамасьць!

# Беларускія філіі Дзяржаўных Гімназіяў.

**Матурысты.** У сёлетнім годзе пасьля экзаменаў здабылі матуру у Віленскай Беларускай філіі 11 вучняў: Жэдзік, Забельская, Канцэлярчык, Марціновічанка, Мілючанка, Насекайла, Стракоўская, Сухая, Урбановіч, Фёдараў, Шавелянка і экстэрністка Пазьнячанка.

У Наваградзкай філіі вытрымалі матуральныя экзамены 14 вучняў: М. Альхоўская, А. Валынец, А. Вярбіцкая, У. Гацкі, Л. Дзякавічанка, Я. Курчэйка, Т. Кур'янішка, Т. Лукашык, М. Рагуля, А. Русецкі, Я. Сазановіч, У. Сіўка, Л. Чэтырка і Я. Цупрык.

Беларускія Філіі Дзяржаўных Гімназіяў ім. Міцкевіча ў Наваградку і ім. Славацкага ў Вільні згодна з уставай аб рэформе школьніцтва будуць мець у 1933 — 34 шк. годзе 1-ю (раней 3-я), 4, 5, 6, 7 і 8 клясы. Уступныя экзамены будуць адбывацца ў восені ад 20 да 25 жніўня. Да заяваў на паступленьне ў гімназіі далучаецца абавязкава: 1) Мэтрыка аб нараджэньні, 2) апошняе школьнае пасьведчаньне, 3) пасьведчаньне дохтара аб паўторным прышчэпе воспы, 4) пасьведчаньне дохтара аб здароўі і 5) 10 зл. за экзамены. Наваградзкая Філія тыпу матэматычна-прыродазнаўчага, Віленская — гуманістычнага.

# З Беларускага жыцьця за граніцай.

**У ЛАТВІІ.** У сёлетнім годзе 19 чэрвеня Прыватная Беларуская Гімназія Т-ва Беларускіх Вучыцялёў у Рызе сьвяткавала першы выпуск сваіх матурыстых. Скончыла гімназію 11 асоб.

Гімназія ўтрымліваецца коштам Вучыцельскага Саюзу і мае дапамогу ад Рыжскага Гарадзкога Самаўраду. Заняткі адбываюцца вечарам, таму што большасьць вучняў днём працуюць на фабрыках і ў канторах і толькі вечарам могуць адведваць гімназію.

*) ВОЛЬЛЕЙ-БОЛЬ (ангельск.), камандная гульня ў мяч. Праводзіцца дзьвюма камандамі па 6 чал. на невялікім пляцу ад 72 да 162 квадрат. мэтраў, падзеленным на палову шпагатовай сеткаю, прымацаванай на вышыні 2 — 4 мэтраў. Мэта гульні — ударам па мячу кулаком ці абедзьвімі далонямі перагнаць яго на палову праціўніка. Мяч лічыцца праіграным, калі ён: 1) дакранецца зямлі, 2) пройдзе пад сеткай, 3) будзе адбіты адным з гуляючых два разы падрад, 4) адбіты болей чым 3 ударамі каманды, 5) выйдзе па-за межы пляцу. За кожную памылку каманды другая старана атрымоўлівае адно вачко. Гульня вядзецца да 15 вочак; Пераможцам лічыцца каманда выграўшая два разы.

Некаторым вучням—дзецям бяднейшых гарадзкіх работнікаў,— даюцца дапамогі. З наступнага школьнага году, маючы на мэце практычнасьць мовазнаўства для работніцкіх масаў, Кіраўніцтва гімназіі ўводзіць выкладаньне нямецкай мовы побач з ангельскай, а вывучэньне лаціны касуецца. Гімназія мае 4 клясы (па нашаму ад 5 да 8).

Апрача гімназіі у Рызе ёсьць 2 аснаўныя беларускія школы дняўныя і 1 вячэрняя для дарослых, з іх адна прыватная, а дзьве на ўтрыманьні гораду. Пры вячэрняй школе ёсьць спэцыяльныя клясы для падрыхтоўкі кваліфікаваных работнікаў: манцёраў, тэхнікаў, машыністаў і г. д. Гэтая школа налічвае да 300 вучняў — фабрычных работнікаў. Адзін з арганізатараў школы К. Б. Езавітаў. З пачатку школа была прыватная, а цяпер утрымліваецца коштам горада Рыгі. Кіраўніком школы — вучыцель-беларус Кастылюк Якуб.

Для падрыхтоўкі вучыцялёў пачаткавых беларускіх школ, у Рызе ёсьць 2-х гадовыя Дзяржаўныя Беларускія Вучыцельскія Курсы.

**У ЛІТВЕ.** Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства пашырае сваю дзейнасьць. У Коўні 6 траўня быў зладжаны спэктакль-канцэрт; ставілі „Суд“, Галубка, а пасьля пьесы хор прапяяў 10 беларускіх народных песень пад акампанімэнт аркестры балалаечнікаў. На вечары выступіла з дэклямацыяй уласных твораў маладая беларуская паэтэса студэнтка Л. Раманейка.

14 чэрвеня Беларускі Народны Тэатр закончыў зімовы сэзон, перад выездам на гастролі ў правінцыю, пастаноўкай пьесы: „Птушка на волі“, О. Сахаравай. Пасьля спэктаклю таксама выступаў хор.

На правінцыі Культ.-Асьветнае Т-ва зладзіла 2 спэктаклі: 8 ліпеня ў гор. Вількоміры, а 9-га ў м. Янаве, была прадстаўлена 3-х актавая комэдыя Ф. Аляхновіча: „Пан Міністар“. Абодва спэктаклі прайшлі з вялікім пасьпехам, і, як падае расейская прэса, зрабілі на публіку дужа прыемнае ўражаньне. Мясцовыя беларусы з захопленьнем слухалі на сцэне сваё роднае слова, іх радавала тое, што беларуская меньшасьць у Літве зрабіла такі поступ у сваей працы.

**У Б. С. С. Р.** Найвялікшае унівэрсытэцкае будаўніцтва ў Савецкім Саюзе — Унівэрсытэцкі гарадок Дзяржаўнага Беларускага Унівэрсытэту ў Менску. Вучэбныя корпусы гэтага гарадку навукі займаюць плошчу ў 14 га. Яны зьмяшчаюць у сабе 500 аўдыторый, лябарыторый і навуковых габінэтаў. Унівэрсытэт разьлічаны на 3.000 студэнтаў.

## АДУСЮЛЬ ПА ТРОХУ.

*** Польскі лётнік кап. Скаржынські зрабіў слаўны пералёт над Атлантыцкім акіянам у Амэрыку.

*** Амэрыканскі лётнік Пост зрабіў кругасьветны палёт у працягу 7 дзён 18 гадзін 49 хвілін. Пост паправіў свой ранейшы рэкордны палёт наўкол сьвета на 20 гадзін і 2 хвіліны.

*** Літоўскія лётнікі выляцеўшыя з Нью-Іорку да Коўны счасьліва праляцелі над Атлянтыцкім акіянам, але, не дасягнуўшы зусім мала да сваёй мэты, згінулі трагічнай сьмерцяй у Прусіі: аэраплян зьнішчаны, трупы лётнікаў перавезены да Коўны.

*** У С. С. С. Р. закончана будова найвялікшага на сьвеце Беламорскага каналу даўжынёй 227 кілямэтраў. Пабудаваны гэты канал у рэкордна хуткім часе, бо за 21 месяц. Будова вялася ў моцна не спрыяючых умовах, як кліматычных, так і прыродных: прыходзілася прабіваць і ўзрываць, на працягу 40 клм., цэлыя гранітныя скалы. Канал лучыць Балтыцкае мора з Белым і Паўночным Ледаватым акіянам і мае вялізарнае гаспадарчае значэньне, бо раней водны шлях ад Ленінграда да Архангельска ішоў праз Балтыцкае мора па за Свандынавіяй і праз Паўночны Ледаваты акіян. Асабліва важнае значэньне мае канал для сплаву лясных матар'ялаў з Паўночных краін Саюзу ў Заходняю Эўропу.

Выдавец: Т-ва Бел. Школы. Адказны Рэдактар: Ф. Стэцкевіч.

# Ой ляцелі гусанькі цераз сад.

*(Вясельная).*

ГАРМ. Л. РАГОЎСКАГА.

Allegretto.

С
А

1. Ой ля – це – лі гу – сань – кі це – раз сад, це – раз сад, –
2. Ой ды што вам, гу – сань – кі, да та – го, да та – го:

Т
Б

pp

1 Volta

Час та – бе, Га – ну – се нь – ка на па – сад. на па – сад.

pp

2 Volta — rit. — Morendo.

Ёсьць у мя – не ой – чань – ка ля та – го, ля та – го.

pp

Ой ляцелі *) гусанькі цераз сад, —
Час табе, Ганусенька, на пасад.

— „Ой ды што вам, гусанькі, да таго, —
Ёсьць у мяне ойчанька ля таго:

Трэба-жа мне кубачкі поўненькі,
Дасьць мне іх бацюхна мойродненькі“.

Ой ляцелі гусанькі цераз сад,
Клікалі Ганусеньку на пасад.

— „Ой ды што вам, гусанькі, да таго, —
Ёсьць у мяне матулька ля таго:

Скажаць мне скланіціся — скланюся,
Я сваёй матуленькі баюся“.

---

*) У першым тахце чацьвертая нота альтовай партыі павінна быць „рэ“, а не „соль“, як напісана.

# Ці у полі, ці у полі не калінка расла.

ГАРМ. А. ГРЭЧАНІНАВА.

*Allegro moderato.*

Ці у по-лі, ці у по-лі не ка-лін-ка ра-сла, Ці у по-лі, ці у по-лі не чыр-во-на-я бы-ла, — Я-е ўзя-лі па-ла-ма-лі ды ў пу-чоч-кі па-вя-за-лі, Му-сіць трэ-ба бы-ло, му-сіць трэ-ба бы-ло.

Ці у полі, ці у полі не калінка расла,
Ці у полі, ці у полі не чырвоная была, —
Яе ўзялі паламалі ды ў пучочкі павязалі:
Мусіць трэба было, мусіць трэба было.

Ці у лузі, ці у лузі не травінка расла,
Ці у лузі, ці у лузі не зялёная расла, —
Яе ўзялі пакасілі ды ў стажочкі палажылі:
Мусіць трэба было, мусіць трэба было.

Ці я ў мамкі, ці я ў мамкі не дачушка была,
Ці я ў мамкі, ці я ў мамкі не прыгожая была, —
Мяне ўзялі замуж далі, сьвет навекі завязалі:
Така доля мая, горка доля мая.

Ой у полі, ой у полі ды ня рэчка цякла,
Ой у полі, ой у полі ды ня быстрая цякла, —
Былі рэчкі паўсыхалі, харошыя паўміралі:
Така доля мая, горка доля мая.

Друкарня Е. Котлярэўскага. Вільня, Віленская вул. № 34 — 8.

# Ня кур, ня вей мяцеліца.

Allegro Moderato. ГАРМ. А ГРЭЧАНІНАВА.

С.
А.

Ня кур, ня вей мя-це-лі--ца. Ка-ляда, ка-ля-да!

Ой!

Т.
Б.

Не за------ве--------------вай

Не за-ве-вай сьцежак да--ро-жак. Ка-ля-да, ка-ля-да!

Ой, яж пай-ду к ма-тульцы ў гось-ці. Ка-ля-да, ка-ля-да

Я-ж пай-ду ў гось-ці. Ка--ля--да

К ма-тульцы і-шла, вя-но-чак ві-ла Ка-ля-да, ка-ля-да!

Ка------ля-------да

Ня кур, ня вей мяцеліца, Каляда, каляда!
Не завевай сьцежак - дарожак. Каляда, каляда!
Ой, я-ж пайду к матульцы ў госьці. Каляда, каляда!
К матульцы ішла, вяночак віла, Каляда, каляда!
Ад матулькі йшла разьвіваючы, Каляда, каляда!
Ой па красачцы раскідаючы. Каляда, каляда!
Ды у ліпаў куст я укінулз Каляда, каляда!
А у кусьціку шэранькі ваўчок. Каляда, каляда!

# А дзе сонца ўзыйдзе, там расы ня будзе.

Moderato. ГАРМ. А ГРЭЧАНІНАВА.

А дзе сон-ца ўзыйдзе, там ра-сы ня бу-дзе, З на-ша--га ка-

хань-ня ні-чо-га ня будзе. Пры-ля-це--лі гу--сі ды з чу-жо-га

кра---ю, Па--му--ці--лі во---ду на ці--хім Ду-на-ю.

А дзе сонца ўзыйдзе, там расы ня будзе,
З нашага каханьня нічога ня будзе.
Прыляцелі гусі ды з чужога краю,
Памуцілі воду на ціхім Дунаю.
Бадай жа вы, гусі, марне запрапалі,
Як мы любіліся, цяпер перасталі.
Каго я любіла, то ў людзі пусьціла,
Каго я не знала, з тым да шлюбу стала.
Бывайце здаровы, сьцежкі і дарожкі,
А дзе-ж пахаджалі мае белы ножкі.
Бывайце здаровы тутэйшыя людзі,
Прашу ўспамінаці, як мяне ня будзе.



Друкарня Е. Котлярэўскага. Вільня, Віленская вул. № 34—8.